



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 15 (372) | ГОД VIII | 14 КРАСАВІКА 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


# ТВОРЧЫ ЭКЗАМЕН

Уваходзіць ужо ў традыцыю арганізаванне штогод беларускім таварыствам і аддзеламі культуры рад нарадовых павятовых аглядаў, а пасля ваяводскага агляду мастацкай самадзейнасці гурткоў БГКТ. Гэта садзейнічае пашырэнню аматарскага руху ў беларускіх вёсках, вытварае жаданне ўдасканальваць культуру ігры на сцэне і ахвоту змерыцца сіламі з іншымі самадзейнымі калектывамі.

31 сакавіка ў Гайнаўку ў Дом Гарняка на ваяводскі агляд прыехала 7 драмгурткоў. Скупава выступала з вадэвілем «Прымакі», Зубава і Сяміхочы паказвалі «Міхалку», Леўкі — «Здарэнне на кірмашы», Пенькі — «10 гектараў», Новы Востраў — «Суд» і Паўлы — «Мікітаў лапаць». Калі падыходзіць з паблажкай, са скідкай да самадзейнасці, дык можна было б сказаць, што такія драмгурткі, як Леўкі, Новы Востраў, Паўлы і Скупава маюць даволі высокі мастацкі ўзровень. Рэжысёрам (а імі з'яўляюцца настаўнікі) у пэўнай меры ўдалося пранікнуць у глыбіню твора, выявіць яго жанравыя асаблівасці і дабіцца нядрэннага выканання паасобных вобразаў самадзейнымі артыстамі. Бо як інакш можна ацаніць людзей, якія не маюць прафесіянальнай падрыхтоўкі, а маюць толькі адну каштоўную якасць — любоў да мастацтва. Вось, напрыклад, драмгурток з Левак, які заняў на аглядзе першае месца і выедзе ў Варшаву

(Працяг на стар. 4)

АЛЕСЬ БУЛЫКА

## РОДНАЕ

Мне нават хлеб стаў бы горкім,
Каб не гэтыя родныя ўзгоркі,
Не сасна ля гасцінца, якая
Мяне першай заўжды сустракае,
Не знайшоў бы спакою ні кроплі
Каб не ўбачыў на лузе копы,
Не пачуў, як звіняць калоссе,
Што зернем тугім налілося.
І навошта жыццё такое —
Без чаротаў над сіняй ракою,
Без гаёў, без буслоў цыбатых
На страсе бацькоўскае хаты.
Крочу зноў ля знаёмых
курганаў
Бачу ў зелень прыбраныя
вёскі, —
І у сэрцы гучаць несціхана
Песень роднай зямлі адгалоскі



## ДА ВАЯВОДСКАГА АГЛЯДУ ДРАМГУРТКОЎ



«Здарэнне на кірмашы» — 1 месца — гурток Леўкі, Бельскі павет.

фота: Г. Рагазінскі

## „Мой родны кут" — выдвецкая навінка БГКТ

Выдавецтва ГП БГКТ выпусціла ў свет каштоўную навінку — зборнік «Мой родны кут». Тут апынуліся вершы і апавяданні нашых мясцовых аўтараў, згуртаваных у Літаратурным аб'яднанні «Белавежа». Кніжка ў асноўным прызначана для вучняў пачатковых школ, дзе вывучаецца беларуская мова.

Зборнік павінен аказаць значную дапамогу настаўнікам нашых школ у кшталтаванні не толькі знаёмства з роднай мовай, але таксама ў развіцці ў дзяцей любві да роднай традыцыі.

Цана зборніка — 6 зл.

Інфармуем, што неўзабаве гэтае выданне паступіць у продаж у кіёсках «Руху» і кнігарнях. Кніжку можна таксама набыць за залічэннем паштовым, звяртаючыся непасрэдна ў Таварыства: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, Białystok, ul. Warszawska 11.

Эмка

УЗНАГАРОДА і КАРА Ў ШКОЛЬНЫМ І СЯМЕЙНЫМ ВЫХАВАННІ. 1)

АЛЯКСАНДР ХАРКЕВІЧ

# ШАНУЙ І ВЫМАГАЙ

Гэта справа не новая, але трэба да яе вяртацца, прыпамінаць, дыскутаваць, каб знайсці адпаведныя метады. Перш за ўсё трэба здаваць сабе справу з таго, што выхаваць, значыць, вырашыць важную і адказную задачу. Найбольш адказную ролю адыгрываюць бацькі і настаўнікі (на першым месцы сгаўлю бацькоў, таму што яны кіруюць першымі крокамі ў выхаваўчай працы) ў маральным выхаванні, якое павінна развіваць пажаданне, як тармазіць, гасіць непажаданыя прагнасці, імкненні, погляды і ўчынкі.

Кожная маці, кожны бацька павінен разумець, што выхаваўчая праца павінна мець акрэсленую мэту. Усе мы хочам выхаваць дзіця чалавекам у сваім разуменні сумленным, справядлівым, шчаслівым, паважаным і абдараным сімпатыяй.

Трэба аднак разумець, што гэтыя словы маюць свой змест. Што шчасце, сумленнасць і справядлівасць — гэта паняцці, якія інакш разумеюцца ў залежнасці ад гістарычнай эпохі і сацыяльнага класа.

Мець трэба заўсёды на ўвазе: тое, што было маральным для шляхціча ці фабрыканта, было немаральным для мужыка, рабочага і г. д.

Тое, што было маральным ў адным палітычна - гаспадарчым строі, адкідваецца і крытыкуецца ў другім.

Дзеля гэтага грамадскасць павінна мець правілы і нормы ўчынкаў, без якіх цяжка было б існаваць.

Што ж было б без такіх норм і правіл?

Кожны тварыў бы паводле сваіх упадабанняў, стваралiся б абставіны няўпэўненасці жыцця, спакою, і ў выніку было б немагчымым развіваць творчую працу, жыццё не мела б прагрэсіўнага развіцця.

(Працяг на стар. 4)



Нашым чытачам і сімпатыкам
Найлепшыя Святочныя пажаданні
„Ніва"

## У ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА IV З'ЕЗДА БГКТ

# ВЕЧАРАМ У ВАСЬКАХ

На Гайнаўшчыне, зрэшты як і ў другіх аддзелах БГКТ, зараз праводзіцца справаздаўча-выбарчая кампанія. У гуртках адбываюцца справаздаўча - выбарчыя сходы. Актывісты БГКТ абмяркоўваюць мінулы перыяд сваёй дзейнасці, выпрацоўваюць напрамкі далейшай. Падрыхтоўка да павятовых канферэнцый і IV З'езда БГКТ у самым разгары.

У канцы сакавіка я пабываў на справаздаўча-выбарчым сходзе гуртка БГКТ у Васьках, Гайнаўскага павета. Гурток тут яшчэ малады. Існуе ён усяго толькі год. Але, нягледзячы на такі кароткі перыяд, шмат добрага зрабіў гурток у сваёй вёсцы.

Таму здабыў давер і пашану сярод жыхароў. Аб гэтым сведчыць і самае зацікаўленне, з якім жыхары Васькоў адносяцца да дзейнасці гуртка. На вестку аб справаздаўчым сходзе гуртка зала мясцовай школы амаль да апошняга месца запоўнілася людзьмі. Прыйшла моладзь і старэйшыя, мужчыны і жанчыны. А гурток жа тут налічваў усяго толькі 21 асобу. Пры гэтым некалькі асоб на працягу года выбыла ў іншыя мясцовасці.

Са справаздачай аб дзейнасці гуртка выступіў старшыня праўлення, кіраўнік мясцовай школы Філіп Грынявіцкі. Справаздача скупая на словы. Адны факты. Год назад на арганізацыйным сходзе гурток прыняў пастанову аб павелічэнні падпіскі на свой родны часопіс — «Ніву», арганізацыі працы грамадскім чынам і развіцці культурнай дзейнасці.

Як жа была рэалізавана гэтая пастанова?

Усе члены БГКТ у Васьках з'яўляюцца пастаяннымі падпісчыкамі «Нівы».

Члены гуртка былі таксама ініцыятарамі працы грамадскім чынам пры пабудове ў Васьках новай прыгожай крамы. Яны найбольш пры ёй і працавалі. Члены БГКТ арганізавалі таксама гурток мастацкай самадзейнасці, які выступіў з пастаноўкамі беларускіх п'ес у аколіцы. Зараз гурток развучвае дзве новыя п'есы, з якімі выступіць на Вялікдзень у сваёй вёсцы.

Абмяркоўваючы напрамкі далейшай дзейнасці гуртка, удзельнікі сходу шмат гаварылі аб неабходнасці пашырэння культурнай дзейнасці. Культурны выгляд вёскі, вуліцы, панадворкаў і дамоў — гэта таксама не абыякавая справа для членаў гуртка БГКТ у Васьках. У вёсцы няма яшчэ святліцы. Няма яшчэ добрых умоў на рэпетыцыі драмгуртка, пастаноўкі, на клубную дзейнасць. Але ёсць у вёсцы добрая традыцыя працы грамадскім чынам. Гэтую традыцыю і далей будзе развіваць гурток БГКТ, які на апошнім сходзе папоўніўся шасцю новымі членамі. У заключэнні схода выбраны новае праўленне (старшыня — Ніна Астапчук) і дэлегаты на павятовую канферэнцыю, якая адбудзецца 21 красавіка ў Гайнаўцы. Пасля сходу прысутныя глядзелі кінафільм «Балада аб салдаце», спецыяльна прысланы на сход павятовым камітэтам ПАРП у Гайнаўцы.

* * *

Павятовы аддзел БГКТ у Гайнаўцы налічвае 46 гурткоў і звыш 1000 членаў таварыства. У большасці гурткоў ужо адбыліся справаздаўча-выбарчыя сходы. Гэта былі творчыя, канкрэтныя сходы, дзе абмяркоўваліся далейшыя напрамкі дзейнасці нашага таварыства. Дзякуючы гэтаму на Гайнаўшчыне відавочна ажыўленне ў жыцці БГКТ. У гэтым не малая заслуга гайнаўскіх актывістаў БГКТ, якія абслугоўваюць сходы гурткоў. Зрэшты, сам факт, што сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. Мікалай Самоцік патрапіць знайсці час, каб быць на сходах гурткоў БГКТ (у Васьках таксама) сам за сябе сведчыць. (вб)

## УВАГА, АБІТУРЫЕНТЫ!

# Выдатная прафесія

Перад кожным вучнем адзінаццатага класа агульнаадукацыйных ліцэяў узнікае зараз немалаважнае пытанне: куды далей пайсці вучыцца, якую выбраць сабе прафесію?



**Вось тут, у гэтым будынку, які знаходзіцца пры вуліцы Ракавецкай 8 у Варшаве, вучацца будучыя механізатары сельскай гаспадаркі.**

фота **В. Рудчык**

Зразумела, раіць штонебудзь вельмі цяжка, бо перш за ўсё трэба браць пад увагу асабістыя схільнасці і мары кожнага выпускніка сярэдняй школы. Аднак для тых, хто сябе моцна адчувае ў матэматыцы і фізіцы, хто любіць гэтыя прадметы, рэкамендуем выбраць факультэт машынабудавання і сродкаў транспарту. (Wydział Maszyn Roboczych i Pojazdów), які існуе пры Варшаўскім палітэхнічным інстытуце.

Факультэт гэты цешыцца вялікай папулярнасцю. Зараз вучыцца на ім амаль тысяча студэнтаў. У яго рамках існуе самастойны філіял, студэнты якога вывучаюць канструкцыю сельскагаспадарчых машын і прыладаў.

Прафесія механізатара сельскай гаспадаркі мае ў нашай краіне ды асабліва ў Беластоцкім ваяводстве шырокія перспектывы. Зараз балюча адчуваецца недахоп спецыялістаў у гэтай галіне. Кожная колькасць механізатараў сельскай гаспадаркі з дыпломамі гэтага напрамку заўсёды адразу атрымае працу на вельмі добрых умовах. Выпускнікі, якія вырашаць вывучаць гэтую спецыяльнасць, маюць вялікія шанцы атрымання фундаваных стыпендый.

Бачым тады, што варта выбраць прафесію механізатара сельскай гаспадаркі. вр

# ЗЯМЕЛЬКУ ТРЭБА КАРМІЦЬ

Яшчэ некалькі год таму назад сялян грамадскіх радаў нарадовых Міхалова, Юшкаў Груд, Шымкі ці Ялоўка, Беластоцкага павета, цяжка было пераканаць аб карыснасці мінеральных угнаенняў. Не мелі да іх пераканання людзі. А глеба тут не сказаць, каб была важнецкая. Пяскі, або ў найлепшым выпадку гліна. Велізарная частка ўгоддзяў акісленая. На ўсю плошчу ўгоддзяў натуральных угнаенняў, як звычай не хапала. Таму і ўраджаі атрымоўваліся, што хоць ты плач, чалавеча.

Неахвота да мінеральных угнаенняў несумненна выклікалася яшчэ і тым, што селянін не заўсёды ведаў дзе, калі і якія прымяняць угнаенні.

Здаралася неаднойчы, падсыпле дзядзька па жыце азатняку не шкадуючы, дык жытка ўзбуяе, як трыснёг, а зерня так няма.

У азнаямленні сялян адносна правільнага карыстання мінеральнымі ўгнаеннямі варта адзначыць вялікую ролю працаўнікоў сельскагаспадарчай службы павета. Аграномы павятовага праўлення сельгасгурткоў неаднойчы разам з гаспадарамі, падкасаўшы нагавіцы, хадзілі па полі ды паказвалі, як і дзе рассяваць угнаенні.

— Зараз, — гаворыць старшыня па справах скупу Міхалоўскай ГС Уладзімір Лінкевіч, — нашых сялян не трэба пераконваць у карыснасці мінеральных угнаенняў. Абы толькі хапала іх у ГС. Раскупяць у момант. І запатрабаванні на іх растуць пастаянна. Напрыклад, калі ў 1961 годзе сяляне ў нашай ГС купілі 109 тон азотных і 327 тон калійных угнаенняў, дык у мінулым годзе запатрабаванне на іх узрасло на 150 тон азотных і 416 тон калійных.

Усё больш сяляне купляюць і вапна. У мінулым годзе яны купілі 315 тон. Варта тут падкрэсліць добрую ініцыятыву ГС, якая ўласным транспартам развезла 174 тоны вапна непасрэдна на панадворкі сялян.

— А як выглядае закупка мінеральных угнаенняў у гэтым годзе? — пытаем у ГС.

— На 1963 год, — адказваюць, — нашыя сяляне ўмудрыліся амаль увесь прыдзел угнаенняў выкупіць ужо ў лістападзе. Тэрміновая закупка вельмі аплочваецца сялянам. Яна шмат таннейшая. Зараз склад ГС пустуе. А сяляне адчуваюць недахоп азотных угнаенняў. Усё ж-такі прыдзелы Беластоцкага ПЗГС замалыя як на запатрабаванне сялян, якіх абслугоўвае Міхалоўская ГС.

Але вядома, што аднымі мінеральнымі ўгнаеннямі шмат не павысіш ураджайнасці палёў. І таму сяляне ўсё больш пры пасевах карыстаюцца кваліфікаваным зернем. Напрыклад, на веснавыя пасевы ў гэтым годзе ГС па запатрабаванні сялян забяспечылася высакаякасным пасяўным зернем. Зерне ў ГС дастаўлена з ПГР Геранімава, Бобра Велька і Юхновец. У сухіх, добра падрыхтаваных складах ГС ёсць 36 тон аўса, 3 тоны ячменю, 2 тоны пшаніцы, кукуруза, сланечнік, пелюшка, сэрадэля, віка, бручка, кармавыя буракі і морква.

Добра таксама развіваецца і кантрактацыя паасобных сельскагаспадарчых культур. Напрыклад, у гэтым годзе закантрактавана 60 гектараў бульбы. Насенная цэнтраля даставіць сялянам 120 тон высакаякасных саджанцаў бульбы. А запатрабаванні на кваліфікаванае зерне і саджанцы ўсё павялічваецца.

Усё гэта спрыяе павелічэнню ўраджаяў і развіццю сельгасвытворчасці. Выходзіць, як зямельку накорміш, дык яна табе і адудзячыцца. У мінулым годзе Міхалоўская ГС пабіла рэкорд у закупцы ад сялян збожжа. Закуплена амаль паўмільёна тон збожжа. А сялянам дастаўлена такая ж колькасць высакаякаснага корму на развіццё жывёлагадоўлі.

**В. Баршчэўскі**

кі і сябры трактуюць дачку інакш, чым маці, і таму яна становіцца пакрыўджанай і няўпэўненай, бо яе не хваляць і не яна знаходзіцца ў цэнтры зацікаўлення. Стасаваныя маці сродкі вядуць да выхавання эгаістычнага чалавека, які не будзе карысным грамадству.

Каб кара і ўзнагарода споўнілі сваю ролю, трэба ведаць, якую выхаваўчую вартасць маюць стасаваныя намі сродкі.

# ВЫМАГАЙ

Малое дзіця не ведае, чаго канкрэтна хоча, але мае свае імкненні, да адных ірвецца, другіх часова ўнікае, а менавіта таму бацькі павінны накіраваць ім і нават паказваць пэўныя абавязкі.

Дзіця малое не можа яшчэ разумець нашых маральных аргументаў, але наша рэакцыя на такія ці іншыя яго ўчынкі паказвае дзіцяці, што можна, а чаго не. Дзіця б'е малодшых, забірае мяч, бацькі кажуць: «Так нельга, брыдка, так не рабі». Часам трэба ўзяць за руку, адвесці ў бок, сказаць: «За такія ўчынкі не раскажу табе прыгожай казкі, бо ведаеш, што гэтага рабіць не можна».

Многа ёсць відаў кары, але кожны від застасавання яе павінен у выхаванку затрымаць ахвоту да неўласцівага ўчынку. У такім выпадку кара становіцца бар'ерам на неўласцівай дарозе, якою хацела б крочыць дзіця. Кара мае прыпамінаць аб тым, што пэўныя рамы ўчынкаў, устаноўленыя ў школе, хаце, грамадстве — гэта не пустыя словы, з якімі можна не лічыцца, а што гэта закон, на варце якога стаіць грамадскасць.

Пасля застасавання кары ў дзіцяці павінна ўзнікнуць пачуццё і зразуменне дрэннага ўчынку, сорам перад асяроддзем, свядомасць шкоды, якую прычыніла яно. Кожная кара павінна прычыніцца да таго, каб у дзіцяці нарадзілася пачуццё і імкненне да папраўы, і з гэтай думкай кару належыць прымяняць.

У выхаванні не толькі кара з'яўляецца пажаданым сродкам. Трэба мець на ўвазе заахвочванне. Калі дзіця зробіць нешта добрае, трэба сказаць: маладзец (зух) вельмі добра, так трэба і г.д.

Неаднаразова трэба пахваліць, выразіць падзяку, папесціць, споўніць дзіцячыя мары, даць узнагароду.

Аб заахвочванні і пахвале не належыць у выхаваўчай працы забываць, але сродкамі гэтымі нельга і надужываць. Сродкі заахвочвання ў дзіцяці развіваюць унутраную барацьбу. Калі мы іх умела прымяняем, то малы «божак» падумае сабе: «Не, дрэнна не зраблю, хоць і хацелася б, але за тое, што дрэнна не зраблю, чакае мяне потым большая прыемнасць». Стасуючы сродкі заахвочвання, дзіця набірае прызвычаення да добрых поступкаў і ў ім гэта астаецца трывалым. Сродкі заахвочвання развіваюць дзіця, яно пачынае ставіць сабе большыя вымаганні, узнікае ў ім маральнае задавальненне, якое разбуджвае пачуццё дзіцячай вартасці і вымаганняў да самога сябе.

Пахвала і адабрэнне — гэта слоўныя ўзнагароды за добрыя поступкі. Знаем, што існуюць яшчэ ўзнагароды матэрыяльныя. Матэрыяльная ўзнагарода — гэта найвышэйшая ступень узнагароды і яна розніцца ад папярэдніх тым, што з'яўляецца знешне відавочнай. Матэрыяльная ўзнагарода можа быць таксама сімвалічнай, як напр. дыплом перадавіка навукі, грамадскай працы і другія.

Як кара, так і ўзнагарода, з'яўляюцца патрэбнымі сродкамі ў выхаванні, але тады, калі яны будуць прымяняцца са свядомасцю і ў адпаведнай форме. Надужыванне гэтымі сродкамі, застасаванне іх не ў адпаведным часе і форме можа часта весці да непрыемных непаразуменняў.

Калі маем цяжкое выхаваўча дзіця і да яго пачнем стасаваць выгавары і кары, яно прызвычаіцца да гэтага стану, і эфекту не будзе. Тады трэба змяніць метады выхавання, шукаць іншых, даступных нам сродкаў. Не забывацца аб тым, што часам пахвала можа больш уздзейнічаць, чым нараканні. Калі вучань дрэнна захоўваецца, зрабіць яго адказным за дысцыпліну ў класе, школе не на доўгі час, пасля прыдумаць яму новае заданне, дбаць аб тым, каб не пакінуць яго без занятку.

У выхаваўчай рабоце нам нельга забывацца аб вялікай самавыхаваўчай працы, якая адбываецца ў школьных вучнёўскіх арганізацыях. Гэта калектыўнае выхаванне, якое прадстаўляе сабой новую,

(Працяг на стар. 7)

